# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUSČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётнічкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 27 (511) — Нядзеля, 10 ліпеня 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# Куба - прадмосьце савецкай дывэрсіі

Калі паўтара году таму назад на амэрыканскім абтоку Куба выбухнула рэвалюцыя, у выніку якой прыйшоў да ўлады Фідэль Кастро, на Захадзе адкідалі навет думку, што за кубанскімі рэвалюцыянэрамі стаяць камуністыя, інсьпіраваныя з Масквы. Сяньня жыцьцё поўнасьцю пацьвердзіла тое, у што Захад тады не хацеў верыць.

Праўда, сам Фідэль Кастро адмаўляецца ад прыналежнасьці да камуністых, тым ня меней на чале цэлага раду ключовых становішчаў у краіне стаяць пераканаяныя камуністыя. Ды фактычна справа ня ў тым, ці кіраўнікі кубанскае дзяржавы зьяўляюцца камуністымі ці не, але ў тым, якую палітыку яны праводзяць.

Як ведама, успомненая кубанская рэвалюцыя праходзіла пад антыамэрыканскімі лёзунгамі і ставіла сваей мэтай поўнае вызваленьне Кубы ад гаспадарскай і палітычнай залежнасьці Кубы ад Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. На працягу усяго апошняга часу цяперашні ўрад Кубы ў сваім змаганьні з Амэрыкай шырака адкрывае дзьверы для савецкай ініфільтрацыі, паколькі без замежнай помачы весьці гэтага змаганьня собскімі сіламі ня можа. Саветы ў сваю чаргу гэтыя магчымасьці ўмела выкарыстоўваюць, маючы, зразумела, на мэце ня інтарэсы Кубы, але вылучна свае собскія палітычныя мэты — стварэньне на гэтым востраве сваей выпадовай базы супраць абодвых амэрыканскіх кантынэнтаў — паўночнага й паўдзённага.

Шыбкі рост савецкіх уплываў на Кубе пачаўся ад часу візыты заступніка прэм'ера Савецкага Саюзу Мікаяна ў лютым сёлета. Тады-ж у сталіцы Кубы Гаване было падпісанае важнае гандлёвае пагадненьне, паводля якога Савецкі Саюз на працягу пяцёх год будзе купляць у Кубы па аднаму мільёну тонаў ў год цукру, галоўнага артыкулу кубанскага экспарту.

Да гэтага часу галоўным пакупнікам кубанскага цукру былі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, якія ў дадатак плацілі за яго значна больш за цэны сьветавага рынку. Але ў сувязі з палітычным напружаньнем між Кубай і ЗША пачалі псавацца й гаспадарскія дачыненьні між гэтымі краінамі. Паношаныя дзякуючы гэтаму гаспадарскія страты Кубы ахвотна згадзіўся такім чынам пакрываць Савецкі Саюз.

Апрача купляньня цукру, Савецкі Саюз заахвяраваў Кубе крэдыт у суме 100 мільёнаў даляраў для закупкі індустрыяльных уладжаньняў, але з тым, што гэтыя закупкі будуць праводзіцца толькі ў Савецкім Саюзе.

Апошнімі тыднямі між Амэрыкай і Кубай разгарэлася запраўдная гаспадарская вайна, а галоўнымі ейнымі аб'ектамі сталіся цукар і нафта.

Галоўным пастаўшчыкам нафтавай ропы на Кубе была дагэтуль Вэнэцуэля. Але кубанскі ўрад, які й так ня сплачваў сваей задоўжанасьці за нафтавую ропу Вэнэцуэлі, пастанавіў вэнэцуэльскую нафту замяніць савецкай. У сувязі з гэтым ужо прыбыло на Кубу некалькі транспартаў нафты з Савецкага Саюзу, а ў далейшым ейная дастаўка мае павялічыцца. Але амэрыканскія нафтавыя рафінэрыі на Кубе адмовіліся перарабляць савецкую нафтавую ропу. У вадказ на гэта ўрад Фідэля Кастро сканфіскаваў амэрыканскія нафтавыя рафінэрыі Эссо і Тэксако, а так-жа Шэль, якая зьяўляецца собскасьцю Вялікабрытаніі. Вартасьць гэтых рафінэрыяў сягае 350 мільёнаў даляраў, а ўся амэрыканская маемасьць на Кубе выносіць 850 мільёнаў даляраў.

Амэрыканскі сэнат і палата рэпрэзэнтантаў упаўнамочылі прэзыдэнта Айзэнгаўэра рэгуляваць пакупныя цэны кубанскага цукру й зьніжаць колькасьць ягонага імпарту. Раней Задзіночаныя Штаты забавязаліся ў бягучым годзе купіць у Кубы 3 мільярды 119 мільёнаў тонаў цукру. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр, карыстаючыся прызнанымі яму паўнамоцтвамі, зьменшыў увоз кубанскага цукру на 740 мільёнаў тонаў. **У вадказ на гэта** ўрад Фідэля Кастро асьветчыў, што страты Кубы ў выніку зьменшаньня амэрыканскага імпарту кубанскага цукру будуць ім пакрытыя далейшай канфіскацыяй амэрыканскае маемасьці на Кубе.

Эканамічная інфільтрацыя Савецкага Саюзу на Кубе, як і наагул у цэлай Паўдзённай Амэрыцы, ня можа мець вялікага эфэкту. Савецкі Саюз тэарэтычна можа ўвозіць сюды ў асноўным толькі сыравіну, што з гледзішча на вялізарную адлегласьць і недастатковую колькасьць гандлёвых караблёў у Савецкім Саюзе, у дадзеным выпадку нафтавых танкераў, зьяўляецца практычна вельмі цяжкім для ажыцьцяўленьня. Пры гэтым краіны Паўдзённае Амэрыкі, у тым ліку й Куба, патрабуюць у першую чаргу замежных капіталаўкладаў, якіх Савецкі Саюз у сувязі зь вялізарнымі собскімі патрэбамі на ажыцьцяўленьне сямілетняга пляну даць ня мае магчымасьці. Але паколькі савецкая эканамічная экспансія ня можа мець такім чынам вялікага эканамічнага значаньня, патолькі прыходзіцца паважна лічыцца з савецкай палітычнай экспансіяй і прапагандовай акцыяй.

Нядаўна ў Маскве было пададзена да ведама, што Кубу ў хуткім часе мае наведаць сам Хрушчоў. Бяручы на ўвагу завойстраныя антыамэрыканскія настроі на Кубе, можна сабе прадставіць, у якую антыамэрыканскую й прасавецкую дэмастрацыю можа выліцця гэтая візыта. Хрушчоў пастараецца тут не прапусьціць ніводнае нагоды, каб варожасьць да Амэрыкі на Кубе давесьці да крайніх межаў.

Варта пры гэтым адцеміць, што апошнім часам ня толькі Савецкі Саюз, але й камуністычны Кітай узмоцніў сваю прапагандовую акцыю ў Паўдзённай Амэрыцы. Савецкае радыё передае для Паўдзённае Амэрыкі 28 гадзінаў праграмы ў тыдзень у гішпанскай мове й дзесяць з палавінай гадзінаў у тыдзень у партугальскай мове. Пэкінскае радыё передае ў тыдзень 14 гадзінаў у гішпанскай мове. Апрача гэтага, для Паўдзённае Амэрыкі адводзяць у сваіх праграмах шмат месца й радыястанцыі савецкіх сатэлітаў у Сярэдня-Ўсходняй Эўропе.

Яшчэ Мікаян у сваім выступленьні падчас свайго падарожжа на Кубу даў зразумець, што Савецкі Саюз пляне пастаўляць у гэтую краіну і ўзбраеньне. Апошнім часам што раз больш пашыраюцца чуткі, што ўрад Фідэла Кастро мае запрапанаваць Савецкаму Саюзу залажыць на Кубе свае ваенныя базы, у прыватнасьці базы для савецкіх падводных лодак. **У** сувязі з гэтым прэзыдэнт Айзэнгаўэр на сваей апошняй прэсавай канфэрэнцыі заявіў, што Задзіночаныя Штаты змогуць пасьпяхова абараніць свае інтарэсы ў выпадку, калі-б Савецкі Саюз узапраўды задумаў зарганізаваць на Кубе базы для сваіх падводных лодак.

Можна быць пэўным, што Амэрыка зробіць усё магчымае і не дапусьціць за ніякую цану, каб пад ейным бокам паўстала супраць яе ськіваваная савецкая выпадовая база. Перад 1934 годам Амэрыка ўжо чатыры разы збройна інтэрвэньявала на Кубе. Праўда, Куба знаходзілася тады пад амэрыканскім пратэктаратам, што давала Амэрыцы права да такой інтэрвэнцыі. Сяньня Куба зьяўляецца сувэрэннай дзяржавай. Ня гледзячы на гэта, зусім ня будзе дзіўным, калі Амэрыка ня будзе зважаць навет на сувэрэнныя правы Кубы ў выпадку, калі-б такія безадказныя палітычныя авантурнікі, як Фідэль Кастро, дзеля заспакаеньня сваей асабістай амбіцыі наважацца ставіць пад загрозу бясьпечнасьць Амэрыкі і усяго вольнага сьвету.

Трэба, аднак, спадзявацца, што й Савецкі Саюз на такую яўную правакацыю ня пойдзе, лічучыся з тым, што гэта й для яго самога магло-б мець вельмі непажаданыя кансэквэнцыі.

З гаспадарскага гледзішча Куба поўнасьцю залежыць ад Амэрыкі. А як было ўжо сказана, Савецкі Саюз, навет паміма сваей волі, у гаспадарскім дачыненьні ня ў сілах замяніць для Кубы Амэрыкі. Таму найбольш праўдападобным для ўсяе гэтае кубанскае гісторыі можа быць наступны фінал. Цяперашні скрайна антыамэрыканскі ўрад Фідэля Кастро, удоваль вышумеўшыся, будзе змушаны напасьледак шукаць супольнае мовы з Амэрыкай. Калі-ж акажацца на гэта няздольным, дык само кубанскае насельніцтва, апынуўшыся ў цяжкім эканамічным палажэньні, можа падняць новую рэвалюцыю й высунуць урад, які змог-бы аднавіць супрацоўніцтва з Амэрыкай.

**Язэп Каранеўскі**

# Ставіць рэчы на свае месцы

Апошнім часам, у сувязі з завайстрэньнем міжнароднага палажэньня, спрычыненага зрывам нарады на найвышэйшым узроўні ў Парыжы і жэнэўскай нарады дзесяці краінаў у справе раззбраеньня, а таксама ў сувязі з савецка-кітайскай палемікай, тэрмін «імпэрыялізм» у палітычных выступленьнях і камэнтарох стаўся асабліва папулярным. Дзіву даецца чалавек, чытаючы і слухаючы, як камуністычная прапаганда спэкулюе гэтым словам, пераварочваючы ўверх нагамі **і ягонае** паняцьце падобна да таго, як яна робіць з іншымі выразамі — «свабодай», «дэмакратыяй», «незалежнасьцяй», «сацыялізмам» і гэтак далей. Але яшчэ больш незразумела тое, што некамуністычны сьвет зь нейкай дзіўнай апатыяй і рэзыгнацыяй згаджаецца з гэтымі бальшавіцкімі перакручваньнямі, узурпатарствамі і пірацтвам у сацыяльна-палітычным лексыконе, у тэрмінах і паняцьцях, укладзеных людзьмі цэлыя стагодзьдзі і тысячагодзьдзі таму і рэспэктаваных цэлымі пакаленьнямі.

Як ведама, у «імпэрыялізьме» і «каляніялізьме» бальшавікі абвінавачваюць вялікія заходнія краіны і, нэгліжуючы ды перакручваючы запраўднае палажэньне справаў, гэты свой «пункт гледжаньня» бесцэрэмонна пашыраюць ўва ўсім сьвеце і ўсімі магчымымі шляхамі. Паводля гэтай бальшавіцка-камуністычнай прапаганды вядучыя заходнія краіны і да сяньня імкнуцца быццам да імпэрыялістычных заваёваў і да каляніатарскай палітыкі. А Захад?

Захад маўчыць, як спараліжаваны. Калі часам Айзэнгаўэр, адбіваючыся ад нападаў Хрушчова, прыгадае «камуністычны імпэрыялізм», дык гучыць гэта проста нейкім дысанансам на фоне агульнай цішыні. Дайшло да таго, што заходняя прэса і іншыя сяродкі інфармацыі настолькі паддаліся гіпнозу бальшавіцкай прапаганды, што ў бальшыні выпадкаў успрымаюць і паўтараюць бальшавіцкія абвінавачаньні Захаду ў імпэрыялізьме і каляніялізьме, як зусім аб'ектыўны факт. Спробы рэакцыі на гэтую прапаганду з мэтай паставіць рэчы на свае месцы — зьявішча на Захадзе вельмі і вельмі рэдкае.

Тымчасам, ня трэба асаблівых высілкаў, каб пабачыць, што навет павярхоўны, але цьвярозы агляд разьвіцьця імпэрыялізму і каляніялізму ў сьвеце на працягу апошняга паўстагодзьдзя дае зусім адваротны вобраз ад таго, які бальшавіцкая прапаганда намагаецца ўсяліць у галовы ўсіх людзей, асабліва тых, якія толькі пачынаюць улучацца ў палітычнае жыцьцё (былых каляніяльных народаў Азіі і Афрыкі).

Ніхто сяньня не аспрэчвае, што яшчэ да нядаўна некаторыя заходнія краіны, побач з царскай Расеяй, праводзілі імпэрыялістычную і калянізатарскую палітыку. Але нельга не заўважаць таго, што ў сучасны мамэнт на Захадзе палажэньне кардынальна зьмянілася. Навет савецкая прэса зьмяшчае паведамленьні аб тым, як, напрыклад, краіны Афрыкі — былыя калёніі заходняэўрапэйскіх дзяржаваў — адна за аднэй атрымліваюць поўную палітычную незалежнасьць. Хуткасьць працэсу палітычнай эманцыпацыі афрыканскіх народаў, сьветкамі якога мы зьяўляемся ў гэтыя дні, не пакідае ніякага сумлеву, што на працягу бліжэйшых пары год увесь афрыканскі кантынэнт, ня гледзячы на ягоную адсталасьць у культурным, сацыяльным і эканамічным дачыненьні, поўнасьцяй вызваліцца ад рэштак існуючай там каляніяльнай залежнасьці. Падобна, калі ня лепш, выглядае справа і ў некамуністычнай частцы азіяцкага кантынэнту. На амэрыканскім кантынэнце эра каляніялізму кончылася ўжо каля стагодзьдзя таму. Што-ж тычыцца Задзіночаных Штатаў, якіх камуністычная прапаганда найбольш абвінавачвае ў імпэрыялізьме, дык яны, вызваліўшыся ў свой час ад залежнасьці Англіі і іншых заходняэўрапэйскіх краінаў, да сяньняшняга дня займаюць выразную антыкаляніяльную і антыімпэрыялістычную пазыцыю.

Мы бачым таксама, як апошнім часам былыя каляніяльныя і залежныя тэрыторыі атрымліваюць поўнае палітычнае самакіраўніцтва ў бальшыні выпадкаў ня толькі бяз ніякага супраціву з боку краінаў, якія імі дасюль кіравалі, але з іхнай падтрымкай.

І вось, у той час, калі заходні сьвет пасьлядоўна і рашуча ліквідуе ў сябе рэшткі каляніяльнай сыстэмы і выводзіць найбольш адсталыя народы на шлях свабоднага і незалежнага культурнага, сацыяльнага, эканамічнага і палітычнага разьвіцьця, спадкаемцы старой Расейскай Імпэрыі — расейскія бальшавікі і да апошніх дзён праводзяць палітыку, характэрную клясычнаму імпэрыялізму і каляніялізму. Гэта не патрабуе асаблівых довадаў. Бальшавікі брутальна зьнішчылі незалежнасьць маладых дэмакратычных рэспублікаў нерасейскіх народаў, што паўсталі на руінах царскай імпэрыі. У часе другой сьветавай вайны бальшавіцкая камуністычная імпэрыя перасунула свае заходнія межы аж на Эльбу, зводзячы да ролі звычайных савецкіх правінцыяў цэлы шэраг раней незалежных краінаў Прыбалтыкі і Цэнтральнай Эўропы. І ўва ўсіх гэтых вы-

(Заканчэньне на 2-ай бач.)

# „Кветка на вежавым кране"

У рубрыцы «Вершы маладых» пад такім загалоўкам зьявіўся на старонках «Літаратура і мастацтва» (24. 6. 1960) верш Валянціна Лукшы. У вершы паэтызуецца:

«Цьвіла чаромха, унізе ўсё бялела.
І ў будцы вежавай вясна была.
У сонцы яркім далячынь гарэла,
І жоўты люцік
У слоіку палаў.
Грымяць каманды гулка:
— Майна!
— Віра!
Цудоўны горад распраўляе крылы.
Хіба-ж цяпер
Да кветак брыгадзіру,
Калі яму будоўля гэтак міла.
Як гаспадар,
Агледзеў мур-будынак,
Адкінуў чуб парывам маладым....
Калі-ж прышоў кароткі перапынак,
Для кветак брыгадзір
Прынёс вады».

Бязумоўна, калі машыніст вежавага крану надта любіць кветкі, дык ён могбы захапіць з сабой адну ці другую кветку-вясьнянку, але толькі не сьмярдзючы «жоўты люцік». Не да кветак аднак на будоўлі брыгадзіру, які ў пылу й у будаўнічым брудзе мусіць назіраць за бегам працы. Тым больш не да вады для чужое кветкі, якая стаіць дзесьці высока ў будцы вежавага крану. Гэта было-б простым марнатраўствам часу, ды як і сам аўтар гаворыць — «хіба-ж цяпер да кветак брыгадзіру, калі яму будоўля гэтак міла», г. зн., што яму найважней выкананьне пляну.

Гэтая лягічная, не гаворачы ўжо аб мастацкай, няўвязка выбачальна маладому пачынаючаму паэту, аднак яна нявыбачальна саюзам пісьменьнікаў і мастакоў БССР, якіх «Літаратура і мастацтва» зьяўляецца афіцыйным органам. Чаму-ж тады рэдкалегія «Літаратуры і мастацтва» зьмяшчае падобныя недасканалыя мастацкія творы?

Як ведама, цяпер, як ніколі дасюль, партыя патрабуе ад пісьменьнікаў і мастакоў зьвязаць літаратуру й мастацтва «з жыцьцём народу», адлюстроўваць ня толькі «камуністычны дух» часу, але й надаваць савецкай рэчаіснасьці пафас змаганьня за выкананьне сямігадовага пляну, за збудаваньне «камунізму». Узгадаваньне савецкага грамадзтва ў духу «рашучых змагароў за камунізм», у духу «ўдарнікаў камуністычнай працы» і «камуністычнай маралі» сталася для савецкай паэзіі, літаратуры й мастацтва вымярэньнем іхнай вартасьці. галоўным пасьветчаньнем іхнага грамадзянства. Усё — лёгіка твору, мастацкія вобразы й асаблівасьці, філязофія жыцьця й чалавечая праблематыка, чалавечая прыгажосьць, мараль і каханьне — падпарадкаваць гэтаму партыйнаму валюнтарызму й практыцызму, чорнай працоўнай штодзёншчыне, якой няма ні канца, ні межаў, а толькі рост чалавечай нязмогі.

З гэтае прычыны й паяўляюцца ня толькі статыстычныя апісаньні культуры гадоўлі сьвіньней і «культурных сьвінарнікаў», але й прыведзены «шэдэўр» савецкай мастацкай літаратуры «Кветка на вежавым кране». Кветка, якая зьяўляецца сымбалем жыцьцёвай вясны і ўспрыймаецца чалавекам як нешта таемнае й пры тым радасна-жыцьцёвае, тут раптам выконкае функцыю прапагандыстага «камуністычнай працы». Больш таго, яна наагул прафануе адпачынак і жыцьцё працаўніка-чалавека. Калісьці напамінаў Багдановіч у сваім «Апокрыфе»: «на што каласы, калі няма васількоў», «няма песьні». Гэта значыць — для чаго жыць, калі няма радасьці, няма песьні. А партыя імкнецца замяніць радасьць і песьню жыцьця толькі працай, пазбаўляючы чалавека першых. Ведама, паэтызацыя працы жыцьцёва патрэбная рэч, але антыгуманным зьяўляецца абмяжоўваць жыцьцё чалавека толькі ягонай працай. Паэзія, наагул мастацтва, паявілася ў вадпачынку чалавека й як адпачынак, як выяўленьне ягоных таемных імкненьняў і жаданьня, нарэшце — як самое жыцьцё. Дык нашто-ж тады адбіраць ад яго гэтую адзіную ягоную радасьць і красу.

Партыі патрэбна працоўнае быдла, а не чалавек, якога яна палохаецца ўсёй сваёй істотай. Чалавек выяўляецца ў сваёй яму думцы й жаданьні жыць, у паэзіі й мастацтве. Таму яна намагаецца ўсяляк здушыць гэтага чалавека, забараняючы яму думаць, радавацца, спадзявацца й тварыць сваё духовае жыцьцё Вынік гэтай антылюдзкай дзейнасьці партыі мы наглядаем у перасосваньні савецкім грамадзтвам марксістоўска-ленінскай біблії, у тварэньні «камуністычных» ідалаў ды ў мастацкай літаратуры й паэзіі пра «кветкі на вежавым кране».

**П. Залужны**

# Пра вельмі й вельмі блізкае

**НОВАЕ АБ ВЯЛІСКІМ ПАЎСТАНЬНІ 1918 ГОДУ**

*«Пытае пра дальніх,*
*Пытае пра блізкіх,*
*Пра полацкіх, віцебскіх,*
*вульскіх, вяліскіх».*

*Аляксей Зарыцкі —*
*«Праз бурныя парогі».*

Мне хлапчуком давялося ўдзельнічаць у Вяліскім паўстаньні 1918 году. Удзельнічаць не із зброяй у руках, якой бракавала дарослым, а ўначы, у забароненыя для руху гадзіны, зьдзіраць бальшавіцкія абвесткі й расклейваць паўстанцкія адозвы. Потым, значна пазьней, за часы вайны, зьвярнуўшыся ў родны Вяліж, паставіў на тамтэйшым Пакроўскім полі, на брацкіх магілках блізу тысячы закатаваных паўстанцаў і партызанаў помнік у іхны гонар. А яшчэ пазьней, апынуўшыся ў вольным дэмакратычным сьвеце, пазнаёміў і суродзічаў і чужынцаў, праз друк і радыё, з гэтым славутым паўстаньнем і ягонымі самаадданымі гэроямі.

Там, дзе пануе дыктатура, не гавораць пра паўстаньні супраць яе. Ніхто не адважыцца сяньня недзе ля возера Дубакраю ці Мядзьведжае Гары засьпяваць калісьці шырака пашыраную ў Наддзьвіньні народную песьню:

*У Вяліжы дождж ідзе,*
*А ў Віцебску сьлізка —*
*Хавайцеся бальшавікі,*
*Бо Нілёнак блізка.*

Ніхто таксама, калі зашумяць у непагоду непраходныя вяліскія бары, што мяжуюць з Вокаўскім Лесам, ня ўжыве ранейшую агульнавядомую прыказку:

*— Грыміць, нібы йдзе Грамабой.*

Паказальна, што самыя магілкі расстраляных на Пакроўскім полі, дзе сьпярша стаялі крыжы й ляжалі вянкі ад знаёмых і незнаёмых, гарсаветчыкі напярэдадні вайны паспрабавалі пахаваць пад мэталічнай габлюшкай зь недалёкае суднавэрфі. Але навет і бальшавікі ня ў стане выкрэсьліць зь гісторыі Вяліскае паўстаньне.

Летась, у № 43 (332) газэты «За вяртаньне на Радзіму», што рэдагуецца бэсэсэраўскімі калябарантамі ў захопленым Масквой Усходнім Бэрліне, зьявіўся вялікі артыкул нейкага Алеся Сіпкі «Далёкае і блізкае». Палова гэтага артыкулу складаецца з самавыхваленьня «Аляксандра Філіпавіча» (ён-жа Алесь) Сіпкі і ўсіх ягоных сваякоў, а другая — зь перакручанага жыцьцяпісу ды ўсялякага ганьбаваньня Юркі Віцьбіча, якому за адным наваратам дасылаецца «праклён ад усіх працоўных». Карацей кажучы, — гэты недарэчны твор недалужнага журналістага не заслугоўвае аніякае чытацкае ўвагі, каб не ягоны разьдзел з адмысловым загалоўкам — «Міт аб Вяліскім паўстаньні», якое паводля аўтара зьяўляецца вынаходніцтвам Юркі Віцьбіча.

Акрамя залічэньня Сіпкам у самым загалоўку Вяліскага паўстаньня ў міты, яно далей усюды згадваецца ім у двукосьсях. Увогуле — «кучка бандытаў», «заталапагонная сволач», «кулаччо», «шакалы», «галаварэзы» «справацыравалі людзей ісьці ў горад рабаваць пад выглядам паўстаньня супраць савецкай улады. Той-сёй пайшоў з бандытамі, а большасьць ішла ў горад паглядзець, што з гэтага будзе». Гэта значыцца, маўляў, заглядаліся на люты бой у Сямічоўскім бары пад Вяліжам з кулямётамі, вінтоўкамі, гранатамі і г. д., як на вясковае ігрышча з бубнам і цымбаламі. Згадваючы вяліскіх партызанаў, як Нілёнак, браты Жыгалавы, Грамабой, Анушчанка, Ільлін, Воранаў, аўтар сьцьвярджае, нібы некаторых зь іх ён судзіў, як падсудак выязное сэсіі Пскоўскага Губсуда, а ў запраўднасьці судзілі іх выязныя тройкі Віцебскай Губчэка і Рэўтрыбунал 15-ае арміі. Але справа палягае навет ня ў гэтай відавочнай чаўпні, а ў тым, як здольны падлабызьнічаць найміт-калябарант, абы толькі дагадзіць свайму хлебадаўцы — расейскаму бальшавізму. Аднак гэты апошні, хоць і прымушаны жыцьцём, але зусім інакш выказаўся аб Вяліскім паўстаньні.

Каб давесьці гэтае, бяру з паліцы кніжку:

Камітэты беднаты
Беларусі

Зборнік дакумантаў і матар'ялаў
Архіўнае кір-ва Мін. Унутр. Спр. БССР
Выдавецтва Акадэміі Навукаў БССР
Менск. 1958.

У ёй, на старонцы 146, пад № 119, зьмешчана:

«Паведамленьне газэты «Известия Западной Коммуны» аб прыдушэньні контррэвалюцыйных паўстаньняў у Віцебскай губэрні

Віцебск.

Паўстаньне ў Вазьнясенскай воласьці зьліквідаванае; разбраеньне працягваецца; адабраныя каля 1 500 вінтоўкаў. Гэта здабыча будзе накіраваная са ст. Расоны ў Віцебск.

Адзін із завадатаяў паўстаньня расстраляны, 5 перададзена чрэзвычайнай камісіі, 5 абвешчана паза законам.

Полацкі павет.

13 лістапада Полацкі павятовы ваенкамат паведаміў аб паўстаньні ў Вязьменскай воласьці. Лік паўстанцаў вызначаны ў 600 чал. Імі была захоплена ст. Расоны. Пасланымі павятовым ваенкаматам сіламі паўстаньне прыдушана.

Характарыстыка паўстаньня

З 11 па 17 амаль уся губэрня была ахоплена контррэвалюцыйным паўстаньнем, што выбухла ў Вяліскім павеце і перакінулася ў іншыя месцы. Паўстаньне мела арганізаваны характар. На чале аддзелаў стаялі былыя ахвіцэры. Чрэзвычайная камісія ўдакладніла сувязь паўстаньня зь белай Паўночнай арміяй. З прычыны паступленьня зь месцаў супярэчных данясеньняў цяжка выявіць дакладна колькасьць паўстанцаў. У Гарадоцкім павеце паўстаньне ўжо канчаткова раздушана. У іншых паветах ліквідуецца».

Газэта «Известия Западной Коммуны»
№ 278 ад 27. 11. 1918 г.

Перадусім трэба адзначыць супрацоўніцтва паміж чэкістамі БССР, г. зн. расейскімі калянізатарамі на Беларусі і Акадэміяй Навукаў БССР, што адбілася

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

## Ставіць рэчы на свае месцы

(Працяг з бач. 1)

падках расейскі бальшавізм паняволіў і трымае ў прыгнечаньні народы больш культурныя і цывілізаваныя за тое асяродзьдзе, зь якога выйшаў ён сам. Зусім відавочным фактам зьяўляецца й тое, што марыянэткавыя ўрады розных формаў, насаджаныя Крамлём у захопленых краінах, пазбаўленыя ўсякай магчымасьці самастойнай палітычнай дзейнасьці. Прыклад Вугоршчыны ў 1956 годзе хіба-што дастаткова наглядна паказаў перад цэлым сьветам, што становіцца з краінай, якая адважыцца спробаваць вырвацца з пад кантролю Крамля. Адзіны вынятак з гэтага правіла — гэта цітаўская Югаславія, якой цудам удалося вызваліцца ад кантролі Сталіна, але гэтага Масква не даравала ёй і сяньня. З адноснай незалежнасьцяй камуністычнага Кітаю, які, дарэчы, намагаецца стварыць сваю ўласную імпэрыю, Крэмль, зразумела, прымушаны лічыцца толькі з увагі на вялізарныя памеры гэтай краіны.

Ці-ж ня ясна, што камуністычная агрэсія ў Карэі, кітайская агрэсія ў Індакітаі, а таксама вайсковая акупацыя і крывавая ліквідацыя рэштак назалежнасьці Тыбэту — гэта, на працягу апошніх год, побач з савецкай ваеннай інтэрвэнцыяй у Цэнтральнай Эўропе, адзіныя выпадкі імпэрыялістычнай агрэсіі на нашай плянэце, агрэсіі, якая прывяла да новых імпэрыялістычных заваёваў і да замацаваньня старых?

Агульна ведама таксама, што эканоміка савецкага блёку плянуецца ў Маскве і ёй кантралюецца. Гэтае плянаваньне накіраванае на павялічэньне індустрыяльнай і ваеннай магутнасьці ў першую чаргу этнаграфічнай Расеі, за кошт свабоднага і ўсебаковага разьвіцьця гаспадаркі падпарадкаваных Маскве народаў.

Бальшавіцкая палітыка культурнай экспансіі расейшчыны, абмежаваньне свабоды культурнага разьвіцьця й гвалтоўная русыфікацыя нерасейскіх народаў — ці-ж гэта ня доказ расейска-бальшавіцкага каляніялізму і імпэрыялізму?

Ня гледзячы на ўсё гэта, Захад, змагаючыся так-сяк з бальшавіцкімі выкрыўленьнямі паняцьцяў «свабоды» і «дэмакратыі», ня прыкладае амаль ніякіх высілкаў, каб перад шырокімі коламі грамадзкасьці вольнага й падкамуністычнага сьвету выкрыць і асудзіць адну з найбольш ганебных рысаў маскоўскага бальшавізму — ягоны імпэрыялізм і каляніялізм.

Ужо, хіба, найвышэйшы час, каб заходнія навуковыя, інфармацыйныя й прапагандовыя колы заняліся грунтоўным высьвятленьнем усіх гэтых формаў бальшавіцкай імпэрыялістычнай экспансіі, а палітыкі распрацавалі плян адпаведнага контранаступу.

**А. З.**

# Паразуменьне

**(У парадку дыскусіі над артыкулам «Тамсама будзеце»)**

Голас старога Земляка ў нашай прэсе рэдкае здарэньне. Аб гэтым найлепш «Бацькаўшчыне» ведама, і яна першая зьвярнула на гэта ўвагу, запрашаючы на дыскусію сваіх чытачоў. Ліст Земляка заслугоўвае на ўвагу ня толькі важнасьцяй парушаных у ім пытаньняў, але найперш кіруючы ўвагу на факт, што старая й новая беларуская эміграцыя маюць шмат ня толькі аднолькавых, але й супольных праблемаў, дык і маглі-б знайсьці супольную мову да ўзаемнага паразуменьня. Як выглядае зь ліста, прычынай даўгога маўчаньня было звыклае непаразуменьне. Старой эміграцыі выдавалася, што гэта толькі мы засланяемся ад іх ледзяной ізаляцыяй, а мы прыпісвалі гэтую віну вылучна ім.

Паколькі сам Зямляк цяпер сьцьвярджае, што ледзяная ізаляцыя з нашага боку зьнікла, на што яны толькі й чакалі, а зь іхнага боку яе зусім ня было, — было-б не на месцы разьбіраць, хто й колькі завініў у гэтым. Тут трэба толькі цешыцца, што так лёгка можна дайсьці да поўнага паразуменьня, а пры добрай волі з абодвых бакоў — і да пажаданага збліжэньня. Землякі й «Бацькаўшчына» задаволеньне сваё ўжо выразна выявілі: першыя — адкрытым лістом, другая — адводам месца ў сябе тым, што жадаюць бліжэй узаемна пазнаёміцца, замяніцца думкамі, падыскутаваць.

Прадстаўнік старой эміграцыі, із свайго боку, выказаў ня толькі добрую волю да пагадненьня, але за адным заходам падаў і ўмовы прыйдучага задзіночаньня ў сваім абшырным лісьце. (Цікава, ці ён таксама чыстай мовай гавора, як піша?). Зямляк справу патрактаваў рачова, ня толькі вылажыў свае ўмовы задзіночаньня, але й асновы іхнае праграмы, як зазначыў, ад альфы да амэгі западаў. Іхнае крэдо падмацаваў няспрэчнымі цытатамі, навет рутыну дзеяньня ў падрабязнасьці выпісаў.

Як відаць, іхная праграма ў васноўным ня розьніцца ад нашай, а ўсё, што дзеліць нас, дык гэта час, пражыты тут, і неадлучнае з гэтым лепшае матарыяльнае іхнае палажэньне. На добры лад, гэта яшчэ ня сьветчыць, што яны жыцьцё лепш знаюць, каб на нас з высока пазіраць. Зямляк відаць хоча аказацца нам карысным і пасвойму Амэрыку для нас адкрывае. Не шкадуе інструкцыяў ці парадаў, як цэрквы будаваць. Выглядае, із справай абазнаны. За дабрадушную ўчыннасьць мы вельмі яму ўдзячныя. Важымся тут зацеміць, што пабудове цэрквы ён памог-бы яшчэ больш, каб свае тэорыі падпёр чэкам на пару тысячаў. Гэта быў-бы гэст не ўяўленага, а праўдзівага прэстыжу, які сваёй вымовай шмат цяпла ўнёс-бы ў пачатую дыскусію. Аўтар ліста здае справу, чаго да аўтарытэтнасьці ягоных парадаў не стае, таму, каб твар ўратаваць, намагае рэтарычным прыхваткам. Патрыярхальным тонам раз-по-раз то сьцебане загана, то пасароміць, то дзеля ажыўленьня «дакладу» з ушчыплівым гумарам раскажа, як салаўёў спрабаваў у Амэрыцы разьвесьці. Дзеля нечага ня скончыў — каб цікавасьць неасьведамленых задаволіць — мы каротка даскажам.

Усе спробы разьвесьці тут салаўёў, у тым ліку й нашага Земляка, канчаліся няўдачай. Прывезеныя з Эўропы пяюны патуль пяюць, пакуль не адпасуцца, а асяродзьдзя трымаюцца — пакуль пер'я ня зьменяць. Ізь зьменай пер'я ў дзікія груганы абарачваюцца ды палятуць падлы шукаць — ніколі назад не варочаюцца. Вось чаму салаўёў у Амэрыцы няма...

Атрымаўшы добрую порцыю дакораў, упечышчаў аб адсталасьці, халатнасьці, змыленьні з праўдзівага шляху на царкоўнай ніве, мы змушаныя калі не бараніцца, дык прынамся ўсправядлівіцца. Ня вельмі выпадае спрачацца пры першай вымене думак, але бадай больш ня выпадае і маўчаньнем, на знак згоды, прызнаць за сабой незаслужаны дакор ды ня вывесьці Землякоў з мыльнага ўяўленьня аб нас. Наадварот, калі дыскусію пачалі — вылажыць без агародак усё на стол, каб было відаць, каму дакор пасуе лепш.

Яны, як сам аўтар азначыў, «яшчэ боўтаюцца» ў старавіне, а мы жывём у духу атамнай эры. «Як тады, так і цяпер» разазнаньне справаў здаюць на ласку павольнае эвалюцыі, а мы ласкі не чакаем ды дасягаем мэты шляхам рэвалюцыі. Праўда, нам не дараўняцца да іхнага багацьця, капіталу, награмаджанага пакаленьнямі, ані іхнай лічэбнасьці; затое яны не дараўнаюцца да нас у вахвярнасьці, сьмеласьці, мадэрнасьці арганізацыйнай тэхнікі. Аўтар ліста цэлы даклад сьпісаў завілай тэхнікі, як ходацца зь перашкодамі й сваіх людзей каля царквы гуртаваць. Мы гэтую праблему разьвязалі даўно, і ягоную тэхніку зь места на калёсы паставілі з тэй розьніцай, што на месца іхнай дыпляматычнай цяганіны ставілі атамны рухавік. Пры тарнаваньні гэтага апарату, хітрамудрыя для іх задачы, як адбор сваіх людзёў, мы зрабілі спосабам простага адсейваньня. Ня толькі радавых лідараў, але й навет патрапілі настаяцеля парахвіі пазбыцца.

Па гаспадарскай лініі вынік ня меншы: на карысьць царквы нашыя грамадзкія ўстановы зракліся прыбыткаў із сваіх крыніцаў. Наколькі гэта касам памагло, хай самі лікі скажуць. Адна парахвія зрабіла 50064 даляраў за год, другая робіць 400 даляраў адных выдаткаў на месяц, трэйцяя закругляе закладовы капітал для пачацьця пабудовы царквы, і гэтак скрозь па ўсёй эпархіі, дзе нашая атамная тэхніка знайшла сабе падатны грунт.

Слушнасьць дакору, што царкву сьпіхалі на канец, больш не паўторыцца. Такіх, што захочуць рабіць гэтак, сярод нас ня будзе. Для царквы ўсё зробім. Аднаго ня зможам — зрабіць больш, чымся можам. Колькі можам, лікі за нас сьветчаць, не сказалі толькі, якой цаной яны нам даваліся. Таму дарэчы тут зацеміць — гэта не сакрэт — што парахвіі нашыя зусім яшчэ малыя. Ня перавышаюць сотні плацячых сяброў. Высноў просты, ня вымагае камэнтараў.

Вось тут, каб добрыя нашыя Землякі, побач дапамогі нам сваймі парадамі, заахвочваньнем, благаславенствам, цытатамі, пачалі даводзіць сваё крэдо чэкамі: што ня грошы, а едзіно на потрэбу есьць, і адмяраць сумы ў імя: Даюшчэго рука не оскудзеет!!!

**Парахвіянін**

*Ф. Кушаль*

4)

# БІТВА ПАД ГРУНВАЛЬДАМ

**Марш на Мальборк і здабываньне крыжацкае сталіцы**

Як прыгадвалася вышэй, вялікі містр крыжацкі сканцэнтраваў быў сваю армію ў чырвені 1410 году ў. раёне Сьвецяя, мяркуючы, што арміі ворага пойдуць далінаю Віслы на Гданск. Калі-ж выявілася, што варожыя арміі йдуць на Мальборк, вялікі містр пакінуў у Сьвецю каля 1 500 коньнікаў пад камандаю комтура Гэнрыка фон Пляўэна, дзеля аховы даліны Віслы ад варожых аддзелаў у выпадку іхнае спробы выканаць манэўр на правы флянг крыжацкае арміі, а сам, на чале арміі, пайшоў напярэймы задзіночаным войскам Літвы й Польшчы. Неўзабаве, пад Кужэнтнікам, вялікі містр пераканаўся, што там знаходзяцца ўсе сілы ворага, а таму — загадаў фон Пляўэну пакінуць Сьвеце й ісьці із сваймі коньнікамі за галоўнаю крыжацкаю арміяй, каб іх можна было ўжыць да манэўру ў вырашальным мамэньце, дзе-б гэты мамэнт не надыйшоў.

У часе маршу фон Пляўэн даведаўся аб разьбіцьці крыжацкіх войскаў пад Грунвальдам і сьмерці вялікага містра ды ўсяго ягонага штабу. Фон Пляўэн адразу зразумеў, што пераможцы пойдуць цяпер на Мальборк і хутка завярнуў свой аддзел у кірунку крыжацкае сталіцы. Дарогаю ён забіраў із сабою гарнізоны ўсіх сустраканых малых замкаў, бараніць якія ня было сэнсу. 18-га ліпеня 1410 году фон Пляўэн дасягнуў Мальборку. Тут ужо зьбіраліся грамады жаўнераў, што выратаваліся ад зьнішчэньня на палёх Грунвальду й гэткім чынам у Мальборку апынулася каля 4 000 войска, здольнага бараніць цьвярдыні. Фон Пляўэн зачыніўся зь ім за мурамі й пачаў рыхтавацца да абароны.

25-га ліпеня 1410 году арміі Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы гэтаксама дасягнулі Мальборку, абкружылі яго й пачалі здабываць муры цьвярдыні. Гэта было ня лёгкае заданьне, тым балей, што большыня жаўнераў саюзных арміяў складалася з паспалітага рушэньня й ня мела большага дазнаньня ў здабываньні цьвярдыняў.

Тымчасам, законныя рыцары, што былі ў Мальборку, выбралі фон Пляўэна намесьнікам вялікага містра да часу, пакуль ня будзе выбраны новы вялікі містр Крыжацкага Ордэну. Фон Пляўэн, зацята баранячы Мальборку, колькі раз высылаў усё-ж на працягу жніўня месяца сваіх упаўнаважаных да Ягайлы й Вітаўта, дзеля перамоваў аб замірэньні. Аднак, вынікаў гэтыя перамовы ня мелі. У палове жніўня на дапамогу Мальборку вырушылі 1500 жаўнераў Лівонскага войска пад камандаю ляндмістра Гэвэльмана. Напярэймы яму пасьпяшаўся Вітаўт із часткаю свае арміі. Аднак, сустрэўшыся, Вітаўт і Гэмэльман ня біліся, а абмяркавалі супярэчныя інтарэсы абодвух бакоў і зрабілі замірэньне на два тыдні, з засьцярогаю, адылі, што замірэньне гэтае не датычыць здабываньня Мальборку. Ляндмістр Гэвэльман узяў на сябе пасярэдніцтва ў спробе прыхіліць фон Пляўэна да падпісаньня міру зь Вітаўтам і Ягайлам. Як пасярэдніку, Гэвэльману было дазволена ўвайсьці ў муры Мальборку з 300 жаўнерамі. Рэшта Лівонскага войска была накіраваная да Брандэнбургіі.

Два тыдні мінулі, але ад фон Пляўэна ня было ніякіх прапановаў у справе міру. Тымчасам, у арміі Вітаўта й Ягайлы пачалася дэмаралізацыя, спрычыненая даўгім і безнадзейным здабываньнем цьвярдыні. Паспалітае рушэньне абедзьвюх арміяў дамагалася павароту дахаты. Да гэтага, у войску пачалася эпідэмія дызэнтэрыі. Адбылося драматычнае паседжаньне вайсковае рады, на якім было пастаноўленае адкласьці здабываньне Мальборку й вяртацца ў свае краіны. Першай адыйшла з пад муроў Мальборку армія Вітаўта, за ім — войска Мазавецкага князя, а нарэшце — завярнула назад і армія польская.

### Трэйцяя фаза вялікае вайны й падпісаньне міру

Адыход арміяў Вялікага Княства Літоўскага, Мазавецкай і Польскай з пад Мальборку адбыўся без падпісаньня міру або навет часовага замірэньня. Крыжакі ўзноў узьнялі галовы, і, хоць не адважыліся перасьледваць адыходзячыя варожыя арміі, вайна ня спынілася. Фон Пляўэн быў выбраны Крыжацкаю Капітулаю на вялікага містра Крыжацкага Ордэну. Пасьля зьняцьця аблогі Мальборку ворагам, ён пачаў арганізаваць новыя крыжацкія аддзелы. Займаючы крыжацкія валоданьні ў маршы на Мальборк пасьля Грунвальдзкае бітвы, Вітаўт і Ягайла пакідалі ў тамачных замках свае гарнізоны, якія засталіся ў замках і пасьля адыходу задзіночаных арміяў з пад муроў Мальборку. Фон Пляўэн мусіў здабываць гэтыя замкі ўзноў, што не заўсёды яму ўдавалася. Хоць вялікая вайна Літвы й Польшчы супраць Крыжакоў ня была ўжо ў трэйцяй сваёй фазе гэткая, якой яна была перад Грунвальдам, калі ў змаганьне былі кіненыя вялізныя, як на тыя часы, арміі, аднак, яна й цяпер шмат Крыжаком каштавала. Разгарнуць шырокую вайсковую акцыю супроць сваіх пагромнікаў з пад Грунвальду вялікі містр фон Пляўэн ня мог, бо яму неставала ні людзёў, ні грошай. Краса крыжацкага рыцарства загінула на полі пад Грунвальдам, скарб быў апустошаны на вядзеньне вайны, якая працягвалася ўжо два гады. Саюзьнік Крыжацкага Ордэну Вугорскі кароль Жыгімонт Люксэмбурскі быў выбраны у міжчасе, пасьля сьмерці Рупрэхта, імпэратарам Сьвятое Рымскае Імпэрыі й заняў высокае становішча ў Заходняй Эўропе. Ён пісаў фон Пляўэну лісты, падбухторваючы яго да змаганьня, але ўсе просьбы крыжацкага містра аб матар'яльнай дапамозе — збываў абяцанкамі. Іншы сымпатык Крыжацкага Ордэну, Чэскі кароль Вацлаў Чацьверты — гэтаксама ня мог дапамагчы фон Пляўэну грашыма. І крыжацкая пышлівасьць фон Пляўэна мусіла скарыцца. Фон Пляўэн пайшоў на кампраміс з ворагам. 14-га сьнежня 1410 году між Крыжацкім Ордэнам і саюзнымі арміямі было падпісанае замірэньне, важнае да 11 студзеня 1411 году. Паводля гэтага замірэньня, варожыя гарнізоны заставаліся ў здабытых замках і вялікі містр забавязваўся не здабываць іх да канца замірэньня.

Пасьля падпісаньня замірэньня, Ягайла запрасіў вялікага містра ў Рацёнж, дзе пачаў абмяркоўваць умовы міру. Важнасьць тэрміну замірэньня колькі раз перасоўвалася наперад,

# Праявы маскоўскага сэрвілізму

Першым з нашых людзей, што прыехаў у Кліўлэнд, быў сп. Міхась Белямук. Ён тут, так сказаць, і астаўся крышталізацыйным пунктам сучаснае нашае калёніі, як з гледзішча ейнага грамадзкага жыцьця, гэтак і арганізацыйнага жыцьця царкоўнага.

За Белямуковай інсьпірацыяй і ініцыятывай тварылася тут беларуская праваслаўная парахвія. Гэта дзякуючы яму, пачынаючы ад царкоўных блянкаў, пячаткі й «Хартара», як сымбаль нашага хрысьціянства быў прыняты крыж у форме паміж намі ведамай, як Эўфрасіньнеўскі крыж. Гэта ўсё дзеялася пры адсутнасьці свайго сьвятара, бо духоўную апеку над Беларусамі выконваў а. Якіменка, па нацыянальнасьці Казак.

У міжчасе сп. Белямук пачаў свае студыі на Калюмбійскім унівэрсытэце, а тутэйшая парахвія прыдбала ўжо свайго сьвятара а. Макарэвіча.

У гэтым часе, восеньню 1957 году, пераехаў я на сталае жыцьцё ў Кліўлэнд. Пад кіраўніцтвам ужо а. Макарэвіча парахвія пастанавіла пабудаваць сваю царкву. Ініцыятыву гэтае пабудовы падтрымаў таксама й я як марально, гэтак і матарыяльна, ды ад сябе выказаў раду, каб на будучай царкве быў пастаўлены Эўфрасіньнеўскі крыж. А. Макарэвіч збыў мяне тым, што «гэта належыць вырашыць япіскапу». Зразумела, із свайго боку, маючы нагоду пабачыцца з архіяпіскапам Васілём, я й запрапанаваў яму, каб напасьледак разьвітацца з маскоўскім васьміканцястым крыжам і заступіць яго собскім крыжам Эўфрасіньнеўскім.

На сваю прапанову атрымаў зьдзіўляючы адказ, што ўспомнены васьміканцясты крыж — гэта «не маскоўскі, але ўкраінскі». Бяручы на ўвагу абставіны нашага спатканьня, ня выпадала мне больш рэзка выступіць супраць такога цьверджаньня. Размаляваны й прыняты плян будовы царквы мог адно толькі дэманстраваць поўную тэалягічную й гістарычна нацыянальную сьлепату як праваслаўнага духавенства гэтак і вернікаў (маю на думцы ў першай лініі праваслаўную інтэлігенцыю). Кліўлэндзкая царква ад зрубоў пачынала расьці ў маскоўскай форме як самое будыніны, гэтаксама й нутрана-арганізацыйна, бо хутка паявіліся й «мэцэнаты» дараднікі — старыя эмігранты ды валынякі, якія баранілі ўсё «истинно русское».

Гэтакі стан застаў сп. Белямук вясною сёлета, калі з матэрыяльных прычынаў быў змушаны перарваць свае студыі. Цяпер ужо, як заангажаваны гісторык, лёгка мог давесьці, куды гэтая царква цягне. Людзі перакананыя зьвярнуліся раньняй восеняй 1959 году да архіяпіскапа ўзноў, на што атрымалі адказ: «Гэта ўсё ворагі вам падказваюць, Эўфрасіньнеўскі крыж — гэта каталіцкі». Нажаль, гэткае абароны праваслаўя хапіла дэлегацыі. Выпрабаваны «канон» мураўёўскіх сьвятароў аказваецца знаходзіцца ў жывым карыстаньні й нашага сучаснага аўтакефальнага сьвятарства.

І гэты факт ня зьнеахвоціў сп. Белямука, які гістарычнымі фактамі пераканаў бальшыню, што абвяшчаючы аўтакефальнасьць і адначасна цягнучы за сабой няслаўнае спадкаемства маскоўскага цэзарапапізму — гэта або блізарукасьць, нясьведамасьць або проста правакацыя. Сп. Белямук сваёй ведай служыў кажнаму й на кажным месцы ды напасьледак пераважаючую бальшыню парахвіі ўсё-ж пераканаў. Пры гэтым, каб архіяпіскапу даць магчымасьць ганаровага павароту, ён паехаў спэцыяльна да яго на поўную гістарычную дыскусію й запрапанаваў, каб, выкарыстоўваючы нагоду 10-цігадовага юбілею, абвесьціць Эўфрасіньнеўскі крыж нашым нацыянальным. Зь гістарычнымі аргумэнтамі архіяпіскап пагадзіўся, а спрыяючай нагодай дзеля абвешчаньня Эўфрасіньнеўскага крыжа меўся стацца епархіяльны зьезд, плянаваны на канец траўня сёлета.

Каб усю гэтую акцыю яшчэ глыбей падмацаваць, было запрапанавана таксама й прачытаць рэфэрат сп. А. Кахаaccount ноўскага на тэму, якім павінен быць крыж на нашых цэрквах. Зразумела, нельга было й дапускаць, каб сп. Каханоўскі заняў становішча абаронька маскоўшчыны. Ды гэтага й ня сталася. Падмацаваная яшчэ раней апінія рэфэратам сп. Каханоўскага дэфінітыўна вырашыла справу на карысьць Эўфрасіньнеўскага крыжа.



**Рыс. 1 — Эўфрасіньнеўскі крыж, рыс. 2 — маскоўскі крыж, рыс. 3 — прапанаваная духавенствам форма крыжа.**

У міжчасе пачаліся пісаньні ды пасланьні ў як найшырэйшым абсягу, поўныя дэмагогіі, супрацьстаўляючы Эўфрасіньнеўскі крыж «Гасподняму», г. зн. маскоўскаму. Пад душком, што «духавенства супраць», пачалі падыймаць галаву й таннае вартасьці авантурнікі ўлучна із сьцягатаптальнікамі зь Міхэльсдорфу, якія тут прыпадкова таксама апынуліся.

Ранейшая дамоўленасьць, што пытаньне будзе паднятае на епархіяльным зьезьдзе, пачало ігнаравацца. Калі раней была адно адмова багаслаўленьня «неправаслаўнага крыжа», дык цяпер пасыпаліся й пагрозы «адлучэньня ад царквы». А між іншым пачалося падстаўляньне «эрзацаў» ды далейшыя напамінаньні «супраць сьведамых і нясьведамых ворагаў нашае веры», каб «мудрасьці ўзялі ад Духа Сьвятога» і г. д.

Настойлівасьць, годная лепшае справы, пачала пераходзіць усякія прыпушчэньні. Напасьледак парахвіяне ўсё-ж пазналіся на сутнасьці справы й пастанавілі бескампрамісова бараніць свайго становішча.

Успомненыя пасланьні й пісаньні цягнуліся цэлымі месяцамі. Духавенства зь герархіяй абяцалі багаславіць усякую форму крыжа, абы толькі не Эўфрасіньнеўскі крыж. Найболей натугі было імі паложана на г. зв. «стары праваслаўны» крыж, што паказаны на рысунку 2. Людзям хапала сораму, каб скачвацца да такой кампрамітацыі: калі з укоснай перакладзінай, тады крыж «сьвяты», праваслаўны, а калі із простай, тады ўжо крыж ня наш. Дык ці-ж можа такое духавенства здабыць давер і павагу, не гаворачы ўжо аб ягонай здольнасьці да духовага правадырства?

Такая тактыка адно яшчэ больш замацавала наважанасьць здаровае часткі парахвіян. А. Макарэвіч, які за лішня кідаўся ў вочы сваей акцыяй супраць волі й ідэялёгіі бальшыні парахвіян, страціў сваю пазыцыю як настаяцель. Ён быў адклікаўся да лякальнага рэфэрэндуму, якое, аднак, аказалася супраць яго. Гэткім чынам парахвія разьвіталася із сваім сьвятаром яшчэ перад епархіяльным зьездам.

Упорыстасьць архіяпіскапа й духавенства выклікала вялікую ўпорыстасьць і тутэйшае парахвіі. Праграма зьезду не прадбачвала зусім дыскусіі ў справе крыжа. Аднак справу крыжа кліўлэндзкая дэлегацыя паставіла як умову сваей прысутнасьці на зьезьдзе. Доўгія былі торгі, духавенства прабавала падсунуць новую форму крыжа, ім-жа ствараную (на рыс. 3), ды яго багаславіць. Гэта была кампіляцыя грэцкага крыжа з расейскім Андрэеўскім. Гэтая форма ўважалася адпаведнай, затое крыж першай асьветніцы й патронкі Беларусі Эўфрасіньні Полацкай, зроблены рукамі вялікага майстра-мастака Лазара Богуша, аказаўся недастойным.

У канцы ў сяброў кліўлэндзкае дэлегацыі не хапіла далейшае цярплівасьці, і яны пакінулі зьезд. Герархія з духавенствам былі прымушаныя капітуляваць ды паклікаць дэлегацыю назад і багаславіць яе.

Дык які-ж аўтарытэт такой акцыяй прыдбала сабе духавенства? Ды ці яно адно вінаватае! Дзе-ж бо нашая праваслаўная інтэлігенцыя?! У Нью Ёрку нацягнулі маскоўскія крыжы, думаю, што і ў іншых нашых асяродзьдзях гэтак сама. І як можна было прыймаць архітэктурную форму царквы, як яна была калісьці пададзеная ў «Бацькаўшчыне»?

Адзін сп. Белямук на тутэйшым груньце адно пры падмацаваньні сп. Каханоўскага змог запраўды ўратаваць гонар нашых праваслаўных суродзічаў. Дарэчы трэба дадаць, што адзін толькі сьвятар а. Мацукевіч з Канады на зьезьдзе радзіў задаволіць жаданьні парахвіянаў-фундатараў царквы. Да гэтага таксама трэба дадаць, што ў капліцы а. Крыта ў Ангельшчыне ўжо гадамі стаіць Эўфрасіньнеўскі крыж. Зьнізу мы здаровыя, але як-жа зьверху?

**Ст. Грынкевіч**

# Пра вельмі й вельмі блізкае

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

на загалоўнай старонцы кніжкі. Між іншым Сапуноў, зьбіраючы матар'ялы для свае шматтамовае «Віцебскае Старыны», не карыстаўся паслугамі царскага жандарскага корпусу. Аднак разам з тым гэты хаўрус катаў і магістраў надае дакумантам надзвычайную пераканальнасьць. Трэба хіба ўзяць пад сумлеў сувязь паўстанцаў з Паўночнай арміяй, бо на справе яна, што адбілася ў паўстанцкіх адозвах, мелася з брыгадай генэрала Булака-Балаховіча, або з Паўночна-Заходняй арміяй. Паказальна таксама, што ў часе паўстаньня перад будынкам Вяліскае Чэка тры дні ляжаў на вуліцы забіты ахвіцэр, з характэрным для балахоўцаў жоўтым аколакам шапкі. Падругое, не адпавядае праўдзе, што ў Расонах чэкістыя расстралялі аднаго паўстанца, а ў запраўднасьці яны замардавалі блізу сотні іх. Затое праўда ёсьць, што Вяліскае паўстаньне ня міт, створаны Юркам Віцьбічам, а гэраічнае былое. Віцьбіч хутчэй недаацэньваў Вяліскага паўстаньня, як кажны шараговец, што, знаходзячыся на фроньце, ведае добра сваю роту і бліжэйшых кадандзіраў, а зусім ня ведае, што робіцца ў гэты час па ўсім фронце.

Полымя Вяліскага паўстаньня ахапіла бяз малага ўсю Віцебскую губэрню, Яно перакінулася ў сумежную частку Смаленшчыны, дзе вядомае пад назовам Жыгалаўшчыны ад імя ахвіцэраў Жыгалавых, Пскоўшчыну — Таропецкі й Вялікалуцкі паветы і навет у больш аддаленую Магілеўшчыну, дзе распачаўся запіс у Дабраахвотніцкую Народную Армію.

У тэй-жа кагадзе працытаванай кніжцы, на старонцы 144-й, зьмешчаны датаваны 18-м лістапада 1918 г.:

> «Загад Магілеўскае Губчэка Копыскай павятовае Чэка аб рашучым змаганьні з контррэвалюцыйнымі выступамі».

Паведамляючы сьпярша аб тым, што «ворагі работніцка-сялянскага ўраду ў некаторых паветах нашае вобласьці (Заходняя вобласьць з цэнтрам у Смаленску — Ю. В.) узьнялі мяцеж», губэрнскія чэкістыя, заклікаючы павятовых змагацца супраць запісу ў Дабраахвотніцкую Армію, пераможна канчаюць — «Усе кіраўнікі мяцежаў, як жыгалавы, волкавы, ільліны — былыя ахвіцэры, даўно ўжо вядомыя, як ворагі Савецкага ўраду і стаяць паза законам». Адсюль можна зрабіць толькі адзіны выснаў, што Вяліскае паўстаньне сталася пагрозай і для Магілеўшчыны. Аднак, хоць пасьля заўзятага змаганьня, яго апошнім і раздушылі бальшавікі, але тым не падбілі канчаткова народнага супраціву. Змаганьне зь імі прыняла толькі новую форму — ня менш заўзятага партызанскага змаганьня.

Надзвычай характэрна ў гэтым напрамку вытрымка з кніжкі:

> Рэвалюцыйныя камітэты БССР
> (ліпень-сьнежань 1920 г.)
>
> Зборнік дакумантаў і матар'ялаў
> Выдавецтва Акадэміі Навукаў БССР
> Менск. 1957.

У ёй, на бачыне 118, у справаздачы Віцебскага «Угорревкома», або ў перакладзе з савецкае мовы — павятовага і гарадзкога рэвалюцыйнага камітэту, зазначаецца:

> «Пакуль што бандытызм у Віцебскім павеце не наглядаецца, але на воласьці Янавіцкую і Курынскую, што мяжуюць з Сураскім паветам, часам нападаюць белагвардзейскія банды з Сураскага й Вяліскага паветаў. У вадзначаных валасьцёх былі выпадкі забойства бандытамі партыйных таварышоў. Змаганьне з нападамі бандытаў пры дапамозе вайсковых аддзелаў, вядзецца параўнальна пасьпяхова».

Агульнавядома, што мянушкі — «вораг народу», «дывэрсант», «бандыт» і г. д., калі яны надаюцца бальшавікамі, зьўляюцца найлепшай узнагародай для тых, каму яны іх прызначаюць. Імі трэба ганарыцца — яны даюць усе правы на годнасьць найлепшага сына свайго народу і найшчырага патрыёты свае Бацькаўшчыны. Бо няма на сьвеце больш бруднае мянушкі, чым — бальшавік.

Сьпяць вечным сном у нязьлічоных магілках беларускія паўстанцы й партызаны. Сьпяць паўстанцы слуцкія, вяліскія, барысаўскія, койданаўскія, парэцкія, расонскія і іншыя. Сьпяць партызаны Юрка Моніч, Паўлюк Нілёнак, Лукаш Семянюк, Абэрон, браты Жыгалавы, Чырвонец, Грамабой, Паўлюк Калечыц, Ільлін-Фульгур, Браніслаў Таварас, Марка Сінічанскі, Воранаў, Жылінскі, Сьцяпан Асмолак, Прымачок і шмат, шмат іншых слаўных, блізкіх, вельмі й вельмі блізкіх. Вечная ім памяць, несьмяротная слава і даземны паклон ад жывых. І няўжо свае неўгамаваныя жыцьці яны паклалі надарма? Не! Ні ў якім разе не! Калі вораг вымушаны, сьцяўшы ад нянавісьці зубы, згадваць аб іхнім змаганьні, гэта значыцца далося яно яму ў знакі і дагэтуль жыве ў памяці народу. А што на разе пануюць на гэтых нязьлічоных магілках бальшавікі, дык тымчасам. Хіба ў стане хмары назаўсёды затуліць сонца?

*«Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,*
*Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ;*
*Ні ў турмах, ні ў канцах, ні ў клятых краінах,*
*Ні ў дзікім прыгоне ў маскоўскім ярме».*

**Юрка Віцьбіч**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

аж нарэшце, на абтоку Віслы пад Торуням зьехаліся былі ўпаўнаважаныя: з боку Вялікага Княства Літоўскага сам Вітаўт, з польскага боку — шэсьць выдатнейшых прадстаўнікоў, а з крыжацкага — ляндмістр Лівонскі Канрад фон Вэтлігоф і брат вялікага містра Рэус фон Пляўэн. Пасьля доўгіх перамоваў, варожыя бакі падпісалі ўрэшце рэштаў мір. У мірным пратаколе, між іншымі справамі, былі заладжаныя й тры галоўныя, што былі прычынаю вялікае вайны наагул: 1) Жамойць заставалася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага аж да сьмерці вялікага князя Вітаўта й польскага караля Ягайлы, пасьля чаго яна аўтаматычна пераходзіла ў валоданьне Крыжацкага Ордэну. 2) Дабжанская зямля варочалася да Польшчы й 3) Памор'е, землі Хэлмінская й Міхалоўская заставаліся ў Крыжакоў.

Першага лютага 1411 году ў Торуню, у залі Ратушу, упаўнаважаныя Вітаўта, Ягайлы й крыжацкага містра, падпісалі, у вельмі ўрачыстых абставінах, пратаколы міру.

Раўнуючы да перамогаў арміяў Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы над Крыжакамі, мірныя ўмовы, падпісаныя варожымі бакамі ў Торуні станоўка не далі заслужаных карысьцяў ні Вітаўту, ні Ягайле. Паколькі плян вайны быў апрацаваны імі ў сьнежні 1409 году запраўды геніяльна, і выкананы пасьлей зь нязвычайнай дакладнасьцяй, аж да Грунвальдзкае бітвы ўлучна, нагэтулькі поўнае разьбіцьцё крыжацкае арміі пад Грунвальдам блізу зусім ня было выкарыстанае саюзьнікамі — пераможцамі. Сяньня нам цяжка судзіць, чаму вайсковая рада ня кінула зараз-жа пасьля Грунвальдзкае бітвы кавалерыю саюзных арміяў на Мальборк, займаючы крыжацкую сталіцу, пакуль разьбітыя Крыжакі не апамяталіся пасьля паразы. Прыбыцьцё арміі Літвы й Польшчы пад Мальборк аж на дзясяты дзень пасьля Грунвальдзкае перамогі — дало магчымасьць фон Пляўэну ня толькі заняць Мальборк, але й падрыхтавацца да ягонае абароны. Гэта было з боку вайсковае рады — вялізарнай стратэгічнай памылкай.

Параза крыжацкае арміі пад Грунвальдам моцна ўстрывожыла Заходнюю Эўропу, бо манлівая прапаганда крыжацкіх агентаў, якія прадстаўлялі Вялікае Княства Літоўскае, як паганскую й схізматыцкую дзяржаву, што задзіночыўшыся з Польшчай, пагражае быццам усёй хрысьціянскай Эўропе, — зрабіла была сваю справу.

Вугорскі кароль Жыгімонт Люксэмбурскі, ён-жа імпэратар Сьвятое Рымскае Імпэрыі, захаваў свае варожыя дачыненьні да Літвы й Польшчы. Вугорская армія заняла была навет колькі местаў у паўдзённай Польшчы, на чале зь местам Новы Сонч, і спаліла іх. Усё гэтае змусіла Вітаўта й Ягайлу пайсьці на згавор з Крыжакамі й падпісаць зь імі мір.

Разьбіцьцё крыжацкае арміі пад Грунвальдам сталася ўсё-ж пачаткам заняпаду Ордэну Крыжакоў. Ён ужо ніколі не вярнуўся да свае даўнейшае магутнасьці, а, наадварот, паволі слабеў, хай і здабываўся яшчэ часам на зачэпныя войны. Гэтак, у 1433 годзе адбыўся крыжацкі наезд на Вялікае Княства Літоўскае з мэтаю пасадзіць на пасад вялікага князя крыжацкага прыхільніка, Ягайлавага старэйшага брата Сьвідрыгайлу. Наезд гэты, адылі, удачы ня меў, Крыжакі былі выгнаныя зь межаў Вялікага Княства Літоўскага, а Сьвідрыгайла ратаваўся ўцёкамі зь Літвы.

Вялікая вайна 1409—1411 гадоў, што зламала магутнасьць Крыжацкага Ордэну, якая чорнай пагрозаю вісела над усходняй Эўропаю блізу сто пяцьдзесят год, адбылася толькі дзякуючы навазе й моцнай волі двух Гэдымінавічаў — Вітаўта й Ягайлы. Вялікае Княства Літоўскае найбольш цярпела ад напорыстага крыжацкага наступу на ўсход і таму Вітаўт і Ягайла раней і лепш зразумелі вялікую небясьпеку, якой быў для ўсяе ўсходняе Эўропы Крыжацкі Ордэн. Асабліва станаўкім паказаў сябе ў гэтай справе вялікі князь Вітаўт, які, займаючы бескампраміснае становішча ў дачыненьні да Крыжакоў, супроцьставіўся спакусьлівым прапановам Вугорскага караля Жыгімонта Люксэмбурскага, які суліў Вітаўту ў Кежмарку каралеўскую карону, Вітаўтавае лятуценьне й пажаданьне на працягу ўсяго жыцьця. Як вялікадзяржаўны муж, Вітаўт выракся тады сваіх асабістых лятуценьняў ды амбіцыяў і застаўся верны саюзу зь Ягайлам, будучы перакананы ў ягонай шчырай непахіснасьці што да зьнішчэньня Крыжакоў. Гэтаксама й Ягайла, за свае беларускія звычаі й мову, уважаны польскаю правячаю элітаю за чужынца й нэафіту (Вайцех Васютыньскі. Тысяча год палітыкі Польскай), усё-ж патрапіў задзіночыць пагляды польскіх можнаўладнікаў, што да неабходнасьці вайны з Крыжацкім Ордэнам, хоць, як прыгадвалася ўжо вышэй, трох польскіх князёў і станулі, на чале сваіх падданых, у шэрагі крыжацкае арміі.

Канчальна зваяваць Крыжацкі Ордэн выпала адно на долю Ягайлавага сына Казімера. Казімер Ягайлавіч быў адначасна й вялікім князем Літоўскім і каралём Польскім. Ён ваяваў з Крыжакамі на працягу 13-х год (трынаццацігодняя вайна), з удзелам войскаў Вялікага Княства Літоўскага, Польскага й Чэхаў-Гусытаў. У 1457 годзе Казімер здабыў Мальборк і зь вялікай урачыстасьцяй уехаў у муры старое крыжацкае сталіцы. У 1466 годзе між ім і Крыжакамі быў падпісаны мір, паводля якога Крыжацкі Ордэн стаўся васальнаю дзяржаваю Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы. Пасьля падпісаньня міру, гэтаксама ў залі Тарунскага ратушу, тагачасны вялікі містр крыжацкі Эрліх Гаўсэн укленчыў перад Казімерам Ягайлавічам, вялікім князем Літоўскім і каралём Польскім, як падданы перад сваім сувэрэнам.

**Крыніцы зь якіх карыстаў аўтар:**

1. Prace komisji wojskowo-historycznej Ministerstwa Obrony Narodowej, serja A, n. 3. Stefan Kuczyński. Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409-1411, Warszawa 1955.
2. Maciej Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Ruska, Żmudzka i Pruska.
3. Tadeusz Korzon. Historja wojen i wojskowości w Polsce.
4. Marjan Kukiel. Zarys wojskowości w Polsce.
5. Wojciech Wasiutyński. Tysiąc lat polityki Polskiej.

**Канец**

